ПРАВА ВЕСНІК АБАРОНЧЫ

ТРАВЕНЬ, **2011**

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ:

## - *Улады хочуць найхутчэй закрыць справу 19 снежня*

**На думку праваабаронцы Алеся Бяляцкага, улады хочуць як мага хутчэй асудзіць гэтых людзей і закрыць справу 19 снежня.**

- Гэта ўсё можа быць звязанае з пэўнымі эканамічнымі цяжкасцямі, калі ўсё гэта складаецца ў адзін клубок, яны хочуць развязаць сабе рукі хаця бы ў адным. Але шчыра кажучы, 19 снежня не канчаецца гэтамі судамі і наяўнасць палітычных зняволеных будзе вымушаць і міжнародную супольнасць, і нас беларускіх праваабаронцаў, увогуле грамадзянскую супольнасць прымаць нейкія захады па вызваленні палітычных зняволеных.

Нагадаем, у судзе Ленінскага раёна Мінска разглядаюць справы былых кандыдатаў у прэзідэнты Міколы Статкевіча і Дзмітрыя Вуса, а таксама лідэра БХД Паўла Севярынца.

Па словах Алеся Бяляцкага, як бы гэта не гучала банальна, аднак беларускія ўлады вырашылі спярша асудзіць падсудных і затым пачаць торг з міжнароднай супольнасцю адносна іх датэрміновага вызвалення.



**Радыё Рацыя.**

# Валянцін Стэфановіч: “Мы прызнаем асуджаных палітвязьнямі”

*- Доказаў таго, што ў Менску 19 сьнежня былі масавыя беспарадкі, суду не было прадстаўлена. Не даказана віна гэтых людзей у зьдзяйсьненьні злачынства па частцы другой артыкула 293-га, а менавіта ў тым, што яны прынялі непасрэдны ўдзел у масавых беспарадках. Калі казаць асобна па кожным з фігурантаў, то адносна Кіркевіча, у прынцыпе, не было доказаў, што ён нешта рабіў. І чаму яму вынесьлі чатыры гады, я не разумею. Мабыць, за тое, што ён сябра „Маладога фронту“? Гэтыя прысуды зьяўляюцца незаконнымі і павінны быць адмененыя. І мы настойваем на вызваленьні ўсіх асуджаных па 293-м артыкуле і прызнаем іх безумоўна палітвязьнямі.*

*Масавых беспарадкаў 19 сьнежня ў Менску не было. Гэтая справа яшчэ раз падкрэсьліла, што недапушчальная кваліфікацыя дзеяньняў гэтых людзей па артыкуле 293. Не ішла гаворка пра дзеяньні, якія прыносілі пагрозу грамадзкай бясьпецы. Грамадзкаму парадку некаторыя дзеяньні, магчыма, прыносілі пагрозу, але не грамадзкай бясьпецы. Не прыносілі пагрозы жыцьцю і здароўю грамадзянаў, як гэта гаворыцца ў артыкуле. Таму, натуральна, мы, праваабаронцы, ня згодныя з такімі прысудамі.*



# Гомель: тэхніку апазыцыянэрам вярнулі, але ня ўсю

«Агулам нам вярнулі 10 кампутараў прыватных і тых, што былі ў офісе. Мы адмовіліся забраць толькі ксэракс, які быў чамусьці няспраўным. Супрацоўнікі ўправы абяцалі прывесьці яго ў рабочы стан тады мы й забяром. Быў яшчэ адзін забаўны эпізод: да аднаго з кампутатаў не было мышкі. Высьветлілася, што адзін з чэкістаў аддаў яе ў карыстаньне свайму сыну, паведаміў **сябра АГП і руху «За свабоду» Уладзімер Кацора.**

Як лічыць грамадзкі актывіст, тэхніку вярнулі ня толькі таму, што яна ня мела ніякага дачыненьня да падзеяў 19 сьнежня. Уладам цяпер не да кампутараў справы ў эканоміцы падштурхоўваюць іх да падобных палітычных крокаў.

**Старшыня рэгіянальнай арганізацыі АГП Васіль Палякоў** кажа, што некаторыя кампутары й ягоны мабільны тэлефон, па ўсім відаць, нават не правяралі:

*«Улады, мяркую, зараз ня ведаюць, што рабіць з палітвязьнямі, хаця судовыя працэсы яшчэ й працягваюцца. Гэта тупіковы шлях. Ім цяпер не да кампутараў, таму й вярнулі хутка вырашылі такім чынам закрыць пытаньне зь ператрусамі, учыненымі па ўсёй краіне пасьля акцыі пратэсту ў Менску».*

**Радыё Свабода.**




Мы прагарталі сайты ўсіх раёнак Гомельскай вобласці, і ўпэўніліся, што выданні перадаюць чытачам спрэс пазітыў і аптымізм, чаго варты толькі газетыя загалоўкі.

Напрыклад, Нараўлянская раённая газета **«Прыпяцкая праўда»** павучае чытачоў: «Каб быць сучаснымі, трэба развівацца шматвектарна» (14.05.2011)

«Спыніць траўматызм» збіраецца брагінская раёнка **«Маяк Палесся»** і нагадвае, што «Шчасце у тваіх руках» (14.05.2011)

«Арыенцір на якасць работы» - піша **«Чачэрскі веснік»** ў той жа дзень, 14 мая. «На добрыя мэты» накіраваны ў «Калінкавічскай газеце», якая паведамляе пра суботнік.

«Па плане працуеш парадак мацуеш» - упэўнены ў **«Петрыкаўскіх навінах»**. «У прыродзе ўсе гарманічна» - зазначаюць **«Хойніцкія навіны»**. «Атрымлівайце асалоду ад прыгажосці» - заклікае «Голас Веткаўшчыны» у матэрыяле пра новыя клумбы і азеляненне горада. Няма валюты, дарагія прадукты застаецца толькі ад прыгажосці атрымліваць асалоду.

«Рабочае месца для таго, каб працаваць!» - прынесла «благую вестку сваім чытачам газета **«Новае Палессе»** (Жыткавічы).

Пра злачынства стагоддзя напісала рачагоўскае **«Свабоднае слова»**: «Падпальшчык куста каля кінатэатра «Прамень» затрыманы». З тэкста мы можам даведацца, што нейкі падлетак выпадкова падпаліў куст ядлоўца.

«Чым жывеш, піянерыя?» - пытаецца газета **«Новы дзень»** (Жлобін). Ельская газета **«Народны голас»** паведамляе народу, што «Жаніцца будзем па-новаму».

Галоўны закон краіны Канстытуцыя, гарантуе беларусам права на «атрыманне, захаванне і распаўсюд поўнай, даставернай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным і міжнародным жыцці». Толькі на практыцы, як відаць, людзі пазбаўлены гэтага права.

**Праваабарончая хроніка.**

# Гомельскі суд на баку гарвыканкама




У Гомелі вызначана толькі адно месца для правядзення масавых мерапрыемстваў, але і там ладзіць пікеты не дазваляюць.
На думку гомельскага **праваабаронцы Леаніда Судаленкі**, неаднаразовыя забароны выканаўчага камітэта прадстаўнікам дэмсілаў у правядзенні мерапрыемстваў падставіла пад пагрозу права на свабоду мірных сходаў:

*- За апошнія сем гадоў гарвыканкам не дазволіў ніводнай з болей чым ста заявак грамадзянаў на арганізацыю мірных сходаў. Толькі ў гэтым годзе актывісты Гомельшчыны падалі болей за 40 заявак, ніводная з якой не была задаволеная. Мы лічым, што рашэнне за нумарам 299 Гомельскага гарвыканкама, прынятае ў 2008 годзе, аб усталяванні адзінага месца для правядзення мірных сходаў, а таксама заключэнні платных паслугаў з супрацоўнікамі міліцыі, медыцыны, "Спецкамунтранса" супярэчыць канстытуцыйнаму праву кожнага на свабоду правядзення мірных сходаў.*

Падчас пікетаў салідарнасці, забарону якіх суд прызнаў законнай, гомельскія дэмакраты планавалі прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы палітычнага праследу іншадумцаў у Беларусі.
Нягледзячы на адмоўнае рашэнне суда, гомельскія актывісты намераныя дамагацца справядлівасці і далей.

## Першы за апошнія сем год афіцыйна дазволены мітынг у апошні момант... тэрмінова забаранілі!

*“Мяне выклікалі ў гарвыканкам і паведамілі, што прынята іншае рашэньне аб адмене дазволу мэрапрыемства*, - кажа старшыня абласной арганізацыі партыі левых “Справядлівы сьвет” Уладзімер Сякерка.

Ён быў заяўнікам мітынгу й выканаў усе патрабаваньні гарвыканкаму, прапісаныя ў рашэньні: заключыў дамовы з міліцыяй аб ахове грамадзкага парадку, камунальнымі службамі аб уборцы тэрыторыі, і “хуткай” аб мэдычнай дапамозе. Прычыну забароны назвалі такую:

*“у сувязі з правядзеньнем на плошчы работ па праверцы фактычнага стану мэталу труб цепламагістралі”.*

Уладзімір Сякерка зьезьдзіў на пляцоўку да Палаца культуры глухіх, дзе плянавалася сустрэча, і сапраўды ўбачыў выкапаную яму
.
*- Я запытаўся ў рабочых, што тут будуць рабіць? Яны адказалі: “Ня ведаем, нам загадалі выкапаць, і мы выкапалі”. Больш за тое, яма была агароджаная. Рабочыя патлумачылі гэта так: “Усё роўна напярэдадзе выходныя, працаваць жа ня будзем!”*



Старшыня абласной арганізацыі зрабіў выснову, што ўлада проста спалохалася:

*“Яны баяцца пачуць голас народа”*, пракамэнтаваў Сякерка.




# “Беларусбанк” парушае правы спажыўцоў-пакупнікоў валюты

**Юрыст Леанід Судаленка лічыць, што абменнікі павінны не толькі скупляць грошы ў насельніцтва, але і задавальняць попыт на валюту.**

*- Калі банк не можа прадаваць валюту, тады ён павінен напісаць аб'яву, у якой мусіць указаць, што ў звязку з тымі альбо іншымі прычынамі ажыццяўляе выключна куплю грошай у грамадзянаў. Паколькі банкі гэтага не робяць, то яны парушаюць правы спажыўцоў на атрыманне пэўнай паслугі.*

Таму Анатоль Паплаўны напісаў адпаведную заяву ў кнізе заўваг і прапанаваў. А потым пойдзе ў суд і будзе даводзіць, што яму банк адмовіў у атрыманні паслугі на куплю валюты.

Паводле Закона “Аб абароне правоў спажыўцоў”, мяркуе Леанід Судаленка, кожны грамадзянін мае права атрымаць пэўную паслугу. Адпаведна, той факт, што банк у канкрэтны момант не мае наяўнай валюты на продаж гэта наўпроставае невыкананне “Беларусбанкам” сваіх абавязальніцтваў.



# Свята ў Гомелі: вянкі ад дэмакратаў і перашкоды ад міліцыянтаў

Сябры дэмакратычных партый і аб'яднанняў Гомеля ўсклалі вянкі і кветкі да мемарыяльнага комплекса Вечны агонь на плошчы Працы. Каля трох дзясяткаў актывістаў ушанавалі памяць антыфашысцкіх падпольшчыкаў і партызанаў, якія загінулі ў гады II Сусветнай вайны.

Гомельскі палітык Васіль Палякоў перакананы, што 9 мая гэта свята, якое павінна аб'ядноўваць усіх беларусаў незалежна ад палітычных поглядаў.

Васіль Палякоў:
- Мы традыцыйна ў гэты дзень ускладаем вянкі і кветкі да Вечнага агню. Таму што тыя людзі, якія паклалі свае жыцці дзеля перамогі, заслугоўваюць нашай павагі і памяці.

Павел Грышын, ветэран II Сусветнай вайны:
- Свята ў нас добрае, канешне, але мы абаранялі ўсё-такі савецкую ўладу. А цяпер, праз некалькі дзясяткаў гадоў, мы апынуліся ў дыктатуры. Мы жывем у буржуазнай дзяржаве. Нас, некаторых ветэранаў, нават паштоўкай не павіншавалі! Нават ніякага прыёму не зрабілі ўрачыстага! У часы СССР нас усіх збіралі, віншавалі, выдавалі і па 100 грамаў франтавых. А зараз кажуць, што сродкаў няма. Як гэта так?! Я лічу, калі ўжо ветэранаў не ўшанавалі ў Дзень перамогі, то нашая дзяржава збанкрутавала.

Уладзімір Мышак, малагадовы вязень канцэнтрацыйнага лагеру “Азарычы”:
- Канцлагер “Азарычы” гэта была адкрытая пляцоўка ў лесе. Пасярод зімы мы знаходзіліся там. Як мы вытрымалі снег, мароз, я дагэтуль здзіўляюся. Памятаю, як у адзін шчаслівы момант, калі ўсе былі галодныя і халодныя, практычна змерзлыя, савецкая армія нас вызваліла.

Святлана Гальдадзе, старшыня Гомельскага гарсавета (1991 1996 гг.):

- Зусім нядаўна прагучала інфармацыя, што памёр апошні ўдзельнік I Сусветнай вайны. Я заўжды з жахам думаю пра тое, няўжо я дажыву да моманту, калі пачую аналагічнае паведамленне пра ветэранаў II Сусветнай вайны?! Мне ў гэтым звязку згадваюцца вершы паэта-франтавіка Сяргея Арлова пра тое, што калісьці на Чырвоную плошчу выйдзе маршал, які ніколі не бачыў гэтай вайны. Я вельмі хачу пажадаць нашым дарагім ветэранам: заставайцеся, калі ласка, з намі як мага болей.

Мемарыяльны комплекс на плошчы Працы сталае месца правядзення гарадскіх урачыстасцяў з нагоды Дня перамогі. Гэтым разам да Вечнага агню прапусцілі не ўсіх дэмакратычных актывістаў. Супрацоўнікі міліцыі падзялілі калону ўдзельнікаў акцыі на падыходзе да мемарыялу. У выніку, усклалі вянок толькі тыя, хто рушыў на чале групы.

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.